Ніна Мацяш



# КАЗКА ПРА СУСЕДЗЯЎ, ЗМЯЮ І МЯДЗВЕДЗЯ

Паводле
беларускай
народнай
казкі

Мастак У. Савіч



Мінск «Юнацтва» 1982





Нeяк Ясь у дзень асенні
Сек у лесе дровы.
Раптам чуе — дзіўны лямант.
Совы?..
Ой, не совы!..

У пару такую совы
Спяць яшчэ, вядома.
Крык, здаецца, чалавечы,
Там, за бураломам...

Ясь наш быў не з палахлівых,
Доўга не вагаўся:
Падхапіў у рукі сук ён
І ў гушчар падаўся.

Толькі праз хмызняк прадзёрся,
За калоду збочыў,
Як знячэўку апынуўся
Каля ямы воўчай.

І такі знаёмы голас
З ямы той нясецца!

Ясь вушам сваім не верыць:
— Гэта ты, суседзе?

— От няшчасце!
Братка Ясю,
Памажы мне, любы,
Выцягні мяне адгэтуль,
Не пакінь на згубу!

— Вось прыгода дык прыгода!
Пачакай хвіліну,
Я табе канец вяроўкі
Зараз кіну.

Кінуў Ясь вяроўку ў яму,
Тузануў з гарачкі:
— Ох і важкі ты, суседзе,
Бадай цябе качкі!

Раптам бачыць: што такое?
Мядзведзь з ямы лезе!..
Выскачыў наверх — і ў неруш,
І прапаў у лесе!..





Ясь працёр няўцямна вочы:
Сон гэта ці ява?..
Але кідае вяроўку
Другі раз у яму.

І наверх яе таропка
Зноўку выбірае.
Матухны!.. Змяю дастаў ён!
Во, ў траве знікае!..

«Што за насланнё? Ці толькі
Падалося гэта?..»

Ясь адно за трэцім разам
Выцягнуў суседа.

Расказаў той, як заўчора —
Ён і сам не згледзеў —
Праваліўся ў гэту пастку
Да змяі з мядзведзем.

Гад са зверам не кранулі
Ў бядзе чалавека.

— Братка Ясю, буду ўдзячны
Я табе давеку.
Без цябе я тут прапаў бы.
За тваю паслугу,
Вер, заўсёды і цябе я
Выручу, як друга.

Усміхнуўся Ясь:
— Пустое,
Падсілкуйся лепей.—

Працягнуў хлапец суседу
Лусту хлеба.

* * *

Ад прыгоды той мінула
Шмат ці мала часу.
Раз і Яся напаткала
Страшнае няшчасце.

Слепа ўдарыла маланка,
Полымя шугнула



І як языком падвор'е
Начыста злізнула.

Ясь якраз быў у ад'ездзе,
А калі вярнуўся
Ды пабачыў папялішча,
З роспачы жахнуўся.

Што ж рабіці?
Што ж чыніці?
Слёзы вочы засцяць...
За што рукі зачапіці?
Голаў дзе прыкласці?..

Да змяркання на руінах
Седзьма Ясь праседзеў...

Потым горка і панура
Рушыў да суседа.

— Выручай, сусед. Калісьці
Ты ў сяброўстве кляўся.
Дай прытулак пагарэльцу
Хоць на першым часе.



— Спачуваю, Ясю. Шкода
Мне цябе, як брата.
Але ў хаце і самім нам
Месца малавата.
Знаеш сам, з такой сям'ёю
Ды ў адным закуце...
Каб не гэта — прытуліў бы,
Хіба ж мы не людзі?!

Хістануўся пагарэлец,
Згорбіўся старэчы,
І, ні слова не сказаўшы,
Павярнуўся прэч ён
І панёс да папялішча
Крыўду і знямогу...

Раптам — шусь!
Мядзведзь калматы
Заступіў дарогу!..

— Не лякайся, хлопча Ясю,—
Кажа найлагодней.—
Я прыйшоў табе аддзячыць:
Прымі гэтых коней.





Глянуў Ясь —
І гулка радасць
Калыхнула сэрца:
На мяжы — гняды,
А побач
І другі пасецца!

А тут нешта — шорх! —
Ціхутка
Ля нагі ля самай...
Аж адскочыў Ясь!..
— Не бойся,
Вось мой дар таксама.

І змяя кладзе на прысак
Брыльянтовы камень.
І ў начы ўслед за мядзведзем
Растае, знікае...

Ашаломлены хлапчына
Скарб той падымае:
Аж гарыць брыльянт у цемры,
Як сляза скупая...

* * *

Але Ясь наш не застаўся
Сам-насам з бядою:
Збудавалі яму хату
Людзі талакою.
Хто як здужаў,
Хто чым здолеў —
Памагалі Ясю.
Толькі той сусед, што ў яму
Некалі папаўся,
Да вяскоўцаў далучыцца
Так і не сабраўся.

Ды затое ён спакою
Не даваў нікому
Нагаворамі на хлопца:

— Скуль у яго коні?
Як згарэла ўсё,
То што ён
Меў?
Хіба што скулу!





Злодзей Ясь!
Накраў ён грошай!
Бо надбаў іх скуль ён?

Людзі зналі праўду,
Плёткі
Мала хто і слухаў.
Ды яны дапалі ўсё-ткі
Следчаму да вуха.

І вось — Яся і суседа
Следчы выклікае
І з пагрозаю пра коней,
Пра брыльянт пытае.

— Праўду чыстую кажу я,
Сцверджу ўсім на свеце,
Што ўсё гэта падарылі
Мне змяя з мядзведзем,—
Ясь адказвае і годна
Зноў апавядае
Па парадку, як з ім выйшла
Нечуванка тая.

— Я гатоў табе паверыць,
Хоць выпадак рэдкі,—
Чухрыць следчы лоб.—
А сведкі?
Ёсць у цябе сведкі?
Хто пацвердзіць, што напраўду
Ты не вінаваты?

А сусед крычыць:
— Ды злодзей,
Злодзей ён!
За краты!

Тут раптоўна хтось як гаркне:
— Годзе! Досыць каркаць!

Людачкі!..
Мядзведзь прастуе
Са змяёй на карку!..

Грымнуў мішка:
— Гэта нашы
Падарункі Ясю!

І змяя аж прыўзнялася:
— Што яшчэ не ясна?

— О шаноўныя, не будзем
Гэтак гарачыцца! —
Замахаў рукамі следчы. —
Пэўна ж, хлопец чысты,
Ані ў чым не вінаваты! —
Следчы далей кажа:
— А паклёпніка — пад стражу,
Зараз жа пад стражу!

Не чакаў сусед такога
Павароту справы.
Запрасіўся, замаліўся —
Толькі ж не паправіш,
Не набудзеш, калі страціў,
Між людзей давер ты,
Пакаяннасцю няшчырай
Годнасці не вернеш.

Павяла суседа стража...

Век так і агараў,
Ганьбу маючы ад вёскі,
Страшачыся бору:
За любым карчом-калодай
Помсліва-зянацку
То мядзведзь,
А то гадзюка
Мроіліся дзядзьку.

Ну, а Ясь?..
Са шчырым сэрцам,
Што зла не трымае,
Між людзей ён і дагэтуль
Жыве-пажывае,
Дабро нажывае.






**СКАЗКА ПРО СОСЕДЕЙ, ЗМЕЮ И МЕДВЕДЯ**

Сказка

Для детей дошкольного возраста

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Рэдактар А. С. Дзяружынскі. Мастак У. П. Савіч. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар Г. Ф. Дубравуцкая.
Карэктар Г. Д. Зінчанка.

ІБ № 1049

Здадзена ў набор 08.05.81. Падп. да друку 29.12.81. Фармат 84×108 1/16. Папера афс. № 1. Гарнітура балтыка. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 1,8. Ум. фарб.-адб. 14,4. Ул.-выд. арк. 2,25. Тыраж 40 000 экз. (2-і завод 30 001—40 000 экз.) Зак. 266. Цана 20 к. Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Фотанабор Мінскага вытворчага паліграфічнага аб'яднання імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

М $\frac{4803010000—026}{М 307(05)—82}$ 26—81

Бел 2
М 35